# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamlenni**

Сусьветнае сеціва: *e-krama.com, www.pahonia.org*
Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *VIESTKI, P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 3 (565)**
**Сакавік 2013 г.**


# Амэрыканскія масавыя сродкі ў змаганьні супраць амэрыканскіх вартасьцяў

З пачатку 1920-х гадоў, з часу пранікненьня ў Амэрыку камуністычнай прапаганды й пашырэньня дзейнасьці камуністычнай агентуры, у амэрыканскім друку, а пазьней таксама і ў іншых масавых сродках сталі адбывацца зьмены, што пачалі супярэчыць асноўным прынцыпам амэрыканскіх дэмакратычных свабодаў. Працэс гэты адбываўся надзвычай паступова, часам спыняўся і аднаўляўся ізноў. Але кірунак гэтага працэсу, нажаль, быў досыць стабільным. Рух адбываўся ад праклямаваных айцамі-заснавальнікамі Злучаных Штатаў свабоды слова й свабоды друку ўбок да замоўчваньня й падаўленьня іншадумства, увядзеньня цэнзуры пад маркаю паліткарэктнасьці, навязваньня амэрыканскаму грамадству самапрыніжальных ідэалёгіяў і самазьнішчальных грамадзка-палітычных паглядаў.

Напачатку працэсу заваёвы леварадыкальных журналістаў – а менавіта такія як Джон Рыд, Альбэрт Рыс Ўілямс, Луіза Браянт, Эн-Луіз Стронг ды іншыя, выступілі піянэрамі "абсаджаньня быстыёну капіталізму" – былі досыць сьціплымі. Амэрыканскія свабоды дазвалялі друкавацца ўсім, ад бальшавікоў і анархістаў да фашыстаў і ку-клукс-клаНаўцаў, і праблемай было – перамагчы канкурэнтаў, выклікаць грамадзкую ўвагу, прыцягнуць чытачоў, зацікавіць і пераканаць эліты.




З распаўсюджаньнем камуністычных ідэяў, а таксама з пагаршэньнем жыцця значнай колькасьці амэрыканцаў падчас вялікай дэпрэсіі вырасьлі шэрагі Кампартыі ЗША, і адпаведна павялічылася колькасьць журналістаў і радыёкамэнтатараў, што, як тады казалі, "з надзеяй скіроўвалі позірк убок першай дзяржавы рабочых і сялянаў". Тое, што ў гэтым раі працоўных людзі паміраюць ад голаду й гінуць у лягерах, заставалася невядомым для шырокіх колаў амэрыканскай грамадзкасьці, дзякуючы не ў малой ступені гэткім "дабрадзеям" як Ўолтар Дуранты, шэф маскоўскага бюро "Нью Ёрк Таймс" і ляўрэат Пуліцараўскай прэміі за рэпартажы з Саветаў, у якіх апяваліся Сталін і дасягненьні пяцігодак, а тэрор і рэпрэсіі аб'яўляліся выдумкамі. У гэты-ж час такія журналісты як Э. Л. Стронг, Эдгар Сноў ды Агнэс Смэдлі апявалі душагуба Мао і "кітайскі калектывісцкі досьвед", што яшчэ абгоніць Сталіна на колькасьці ахвяраў камунізму. Падчас Другой сусьветнай вайны ўсхваленьне Саветаў паднялося на новы ўзровень. Менавіта там, на Ўсходзе, бачыліся амэрыканскім левакам узоры для далейшага разьвіцьця Амэрыкі, якая ўважалася імі як занадта рэакцыйная, антыкамуністычная й кансэрватыўная. Пераламаць традыцыйныя амэрыканскія пагляды й падыходы стала неабвешчанай, пакрыёмай мэтай амэрыканскіх леварадыкальных элітаў, што карысталі зь любой нагоды, каб пасеяць сумнівы ў слушнасьці й эфэктыўнасьці амэрыканскай палітычнай сыстэмы, амэрыканскага ладу жыцьця, амэрыканскай мары. Змаганьне супраць амэрыканскіх вартасьцяў набірала тэмп. Тон задавалі былыя савецкія агенты, як журналіст І. Ф. Стоўн, або "карысныя ідыёты", як журналіст Гэрбэрт Мат'юз, што ўсхваляў у 1959 годзе "рэвалюцыю барадачоў" ды вылузваўся са скуры, каб паказаць, які шляхотны, які выкшталцоны Фідэль Кастра. Мэдыі хорам сьпявалі дыфірамбы камуністычнай сыстэме, "што падняла на нечуваныя вышыні навуку і паслала ў космас свайго прадстаўніка".

Пасьля шэрагу паразаў і адкату левай хвалі ў часы Карэйскай вайны й макартызму 1950-х гадоў для змагароў з амэрыканскімі каштоўнасьцямі ўзьнікла нагода рэваншу – пачалася вайна ў Віетнаме. Яна ў пэўным сэнсе была справакаваная й выпеставаная напачатку 1960-х акрэдытаванымі у Сайгоне амэрыканскімі журналістамі, што ня толькі фармавалі думку амэрыканскіх амбасадараў і прэзыдэнтаў, але шырака паўплывалі на агульны ход падзеяў, і ў пэўным сэнсе, на хаду гісторыі. Такія журналісты як Дэвід Галбэрстам, Гоўмэр Бігэрт, Франсуа Сюлі, Нял Шыган, Мэлкам Браўн спрыялі стварэньню адмоўнага іміджу антыкамуністычных віетнамскіх лідэраў ды падбухторвалі дзяржаўны перакул у Паўднёвым Віетнаме, дзе камуністычная партызантка і камуністычныя ўплывы Віетконгу былі збольшага стрымліваныя антыпаўстанцкімі мерамі, а стабільнасьць досыць няўстойлівага, фрагмэнтызаванага грамадства паступова і няўхільна падвышалася. Аднак у выніку дзяржаўнага перакулу 1963 г., да якога журналісты мелі наўпростае дачыненьне, Паўднёвы Віетнам абрынуўся ў бясконцую чараду вайсковых перакулаў і нестабільнасьці. Супрацьстаяўшыя камунізму сілы загрузьлі ва ўзаемных сварках і варажнечы. Становішча з партызанкай катастрафічна пагоршылася на карысьць Віетконгу, а камуністычныя ўлады Паўночнага Віетнаму, бачачы слабасьць Сайгонскіх уладаў і нерашучасьць амэрыканцаў,

*Заканчэньне на бачыне 3*

# Лютаўскі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У Доме Маракоў 9 лютага прайшоў чарговы сход Згуртаваньня “Пагоня”. Як заўсёды, сход адкрыў старшыня “Пагоні” сп. Віталь Зайка. Ён падзяліўся сваім бачаньнем разьвіцьця падзеяў у ЗША. У прыватнасьці ён адзначыў, што ў выніку разьвіцьця пэўных працэсаў у грамадзкай думцы і жыцьці краіны сёньня асноўныя інстытуцыі, якія фармуюць грамадзкую апінію і вызначаюць настроі грамадзтва перанятыя прадстаўнікамі так званай левалібэральнай, “прагрэсіўнай”, плыні. Гэта значыць, што ў пераважнай большыні сродкаў масавай інфармацыі і аддзяленьнях грамадзкіх навукаў пры ўнівэрсытэтах і каледжах дамінуюць прадстаўнікі левых, марксісцкіх, паліткарэктных і гіпэркрытычных да Амэрыкі пагляд аў.

Па традыцыі, што існавала ў амэрыканскай грамадзкай думцы, прадстаўнікоў яе левага флянгу называлі “лібэраламі”, і гэты назоў актыўна ўжываецца дасюль. Аднак, спрабуючы разабрацца, ці сапраўды могуць быць лібэраламі – спадкаемцамі Русо, Вальтэра, Гобса, Х’юма ды Адама Сьміта – асобы, што сталі сёньня “валадарамі думаў” у амэрыканскім грамадзтве, міжволі прыходзіш да высновы, што лібэралізм і тыя погляды ды мэтады, што практыкуюць навапаўсталыя “валадары”, супярэчаць адзін аднаму.

Прапаведаваныя “валадарамі” мультыкультуралізм і палітычная карэктнасьць праставаюць ім шлях да ідэалягічнай дамінацыі, дзе іхныя думкі – адзіна правільныя, а ўсе, хто зь імі ня згодныя – гэта крывадушнікі, расісты, рэтраграды, якія ідуць супраць “99% народу” і хвалі часу. Насамрэч такія інтэлектуальна несумленныя заявы і тэорыі ёсьць праявою нетalеранцыі, спосабам дэлегітымізацыі апанэнтаў ды накіданьнем аднастайнасьці мысьленьня. А гэта, у сваю чаргу, нагадвае ўсім, хто жыў пад таталітарным ды аўтарытарным кіраваньнем, добра знаёмыя асаблівасьці несвабоднага грамадзтва. Такім парадаксальным чынам найсвабаднейшая і найдэмакратычнейшая сыстэма ў сьвеце выгадавала ў сваім улоньні поўную сваю супрацьлегласьць, што хаваецца пад маскаю “лібэралізму”, “аб’ектыўнасьці”, “выпраўляньня гістарычных несправядлівасьцяў”.

Далей прамоўца спыніўся на інфільтрацыі ў ЗША ісламісцкіх сілаў, што карыстаюцца лагодным кліматам, спрыяльным для таталітарных ідэалёгіяў кшталту ісламізму (палітычнай плыні радыкальнага ісламу) праз так званую левалібэральную індактрынацыю. Пры шырака распаўсюджанай у колах журналісцкіх, мастацкіх ды адукацыйных элітаў практыцы высьмейваньня хрысьціянства, гіпэртрафаванай увагі да праяваў крымінальных паводзінаў сярод сьвятароў і дыгнітароў хрысьціянскіх канфэсіяў, і асабліва каталікоў, а таксама ў адносінах да мармонаў – шматлікія выпадкі крымінальных учынкаў прадстаўнікоў ісламу, улучна з тэрарызмам, ганаровымі забойствамі, разбэшчваньнем непаўналетніх, групавымі нападамі, зборам сродкаў на тэрарыстычныя арганізацыі – сталі табу для агульнапрызнаных мэдыяў ЗША, матэрыяламі зь “нізкай навіновай вартасьцю”. І таму, калі інфармацыя прасочваецца такі ў грамадзтва – дык адно праз мясцовыя газэты ды сеціўныя блёгі. Усе рэлігіі ў Амэрыцы нібыта роўныя, але адна рэлігія ёсьць, па словах Оруэла, “раўнейшая” за іншых. Часьцяком праніканьне ісламізму на ўнівэрсытэцкія кампусы, у друк, у іншыя сэгмэнты грамадзкай сфэры адбываюцца праз “змаганьне зь сіянізмам” у выглядзе падтрымкі радыкальных падыходаў да вырашэньня палестынскай праблемы.

Прамоўца заклікаў крытычна ставіцца да праяваў левалібэральнага ды ісламісцкага актывізму ў Амэрыцы, ужываць здаровы сэнс, супрацьстаяць “прэсінгу раўналеткаў”, які часьцяком ужываецца для агітаваньня, і пазьбягаць удзелу ў падтрымцы левалібэральнай ды ісламісцкай дзейнасьці ў абліччы пікетаў, прапагандысцкіх кампаніяў, дэманстрацыяў, збору подпісаў, збору грошай і г. д.



Юры Малахаў

Затым сп. Юры Малахаў выступіў з прэзэнтацыяй пра беларускага нацыянальнага героя Кастуся Каліноўскага, прымеркаванай да 175-годзьдзя славутага змагара. Ва ўступным слове да прэзэнтацыі сп. Зайка адзначыў, што апошнім часам на памяць Каліноўскага вядзецца скаардынаваная атака ў масавых сродках у Беларусі. Каліноўскаму адмаўляецца беларускасьць, маўляў, гэта быў польскі шляхціц, варожы да беларусаў, які падступна карыстаўся “тутэйшай мовай”, каб зацягнуць іх у “каталіцкую мярэжу”. Натуральна, аб’ектыўнага і збалянсаванага пагляду на Каліноўскага цяперашнім беларускім уладам ня трэба, галоўнае – выбіць буйную карту з рук “нацыяналістычнай апазыцыі”. Нажаль, у прэзэнтацыі сп. Малахава былі ўжытыя некаторыя некрытычна запазычаныя зь сеціва тэзы пра жыцьцё і дзейнасьць К. Каліноўскага. Разам з тым асноўная частка прэзэнтацыі была дэталёвая й інфарматыўная, з ілюстрацыямі й цытатамі з архіўных дакумэнтаў. Сп. Малахаў падкрэсьліў, што “абвінавачаньні” ў польскасьці Каліноўскага ня маюць фактычнай глебы, што Каліноўскі быў шчыра настаўлены палепшыць жыцьцё беларускіх сялянаў, перш за ўсё вырашаючы палітычна-грамадзкія праблемы. Прамоўца адзначыў вялікі ўплыў дзейнасьці Каліноўскага на беларускіх адраджэнцаў наступных пакаленьняў. Памяць пра яго была ўшанаваная нават у савецкія часы ў помніках, назвах вуліцаў, публікацыях і музэйных экспазыцыях, хаця, канешне, замоўчваўся нацыянальна-вызвольны, незалежніцкі бок ягонай дзейнасьці. У Рэспубліцы Беларусь напачатку 1990-х гадоў быў заснаваны ордэн Кастуся Каліноўскага, але з прыходам да ўлады Лукашэнкі ўзнагароджаньняў не праводзілася, а сам ордэн быў у 2004 годзе скасаваны. Прэзэнтацыя была зь цікавасьцю праслуханая прысутнымі.

У пасьляслоўі сп. Зайка адзначыў, што асоба Кастуся Каліноўскага яшчэ ня вывучаная ва ўсіх яе аспэктах і яшчэ ня ўсе дакумэнтальныя крыніцы, зьвязаныя зь ёю, уведзеныя ў навуковы й грамадзкі зварот. Разам з тым рэаліі й сьветапогляд сярэдзіны 19-га стагодзьдзя ня можна атаесамляць з імі ж цяпер. Постаць Каліноўскага і ягоная дзейнасьць мусяць ўлічваць нюансы часу і разглядацца ў шырэйшым кантэксьце нацыянальных рухаў Эўропы, чаго, натуральна, ня робяць “дэканструктары” “мітаў пра Каліноўскага” зь ліку расейскіх шавіністаў і прыхільнікаў рэжыму Лукашэнкі. Як ілюстрацыю неабходнасьці шырэйшага й збалянсаванага аналізу гістарычных асобаў сп. Зайка прывёў прыклад разгляду амэрыканскага прэзыдэнта Джона Ф. Кенэдзі.

Сп. Віктар Едзіновіч падзяліўся малавядомай інфармацыяй пра Д. Ф. Кенэдзі ў пытаньні дачыненьняў з СССР.

У канцы сходу ў разьдзеле “Рознае” прагучэлі аб’явы й паведамленьні, а затым прысутныя мелі магчымасьць працягнуць знаёмствы й калегаваньне пры сьціплых пачастунках.

**Віталь ЗАЙКА**

# Масавыя сродкі ў змаганьні супраць амэрыканскіх вартасьцяў

***Заканчэньне з бачыны 1***

палічылі слушным пачаць адкрытую агрэсію супраць Паўднёвага Віетнаму, атрымаўшы падтрымку ад СССР і Кітаю. Рэальнасьць страты Віетнаму, а за ім прыход да ўлады камуністаў у Камбоджы, Інданэзіі, Малайзіі, на Філіпінах, спыненьне марскіх камунікацыяў у рэгіёне, магчымыя савецкія базы – усё гэта прымусіла нерашучую, асьцярожную адміністрацыю прэзыдэнта Л. Б. Джонсана увесьці рэгулярныя амэрыканскія войскі ў Паўднёвы Віетнам. Віетнамская вайна пачалася ў поўную сілу.

І вось тут напоўніцу забомкалі званы левых радыкалаў, завылі сірэны антыамэрыканізму ў ЗША. У бясконцых артыкулах, тэле- і рыдыё-перадачах пра Віетнам скрозь праводзілася думка пра непатрэбнасьць і абсурднасьць вайны, пра зьверствы амэрыканскіх жаўнераў, пра наўмыснае вынішчэньне мірнага віетнамскага жыхарства, пра марнасьць ахвяраў маладых амэрыканскіх хлопцаў, пра шляхотнасьць і справядлівую барацьбу камуністычнага Віетконгу. Ці варта казаць, што значная колькасьць журналісцкіх матэрыялаў была наўпрост ілжывая, а рэшта ўтрымлівала шмат недакладных і неправераных зьвестак. Працягвалася фармаваньне грамадзкай думкі радыкаламі, якія на той час займалі ўжо рэспэктабельныя й добра аплочаныя пасады і з маргінэсу грамадзкага жыцьця й сэнсацыйнага журналізму перасунуліся ў мэйнстрым, сталі агульнапрызнанымі масавым сродкамі (па-ангельску Mainstream Media, MSM). Антываенныя дэманстрацыі сталі ў канцы 1960-х – пачатку 1970-х гадоў такой звычайнай справай, як гульня ў бэйсбол ці сьвяткаваньне Дня Падзякі. Паралельна разьвіваўся рух контаркультуры, хіпі, квазі-рэлігійныя культы, поп-арт і поп-музыка, для якіх амэрыканскія вартасьці сталі анатэмай, прадметам кпінаў і зьдзеку. У выніку воля да перамогі ў Віетнамскай вайне была падарваная, урад і грамадзкасьць фактычна капітулявалі перад купкаю радыкальных актывістаў, што ў патрэбны час знайшліся на стратэгічных пазыцыях у амэрыканскім грамадзтве. Такая перамога замацавала аўтарытэт і прызнаны грамадзкі статус левaрадыкалаў. Іх ахвотна запрашалі выкладаць ва ўнівэрсытэтах, займаць цёплыя пасады дарадцаў пры ўрадзе ды ў буйных прыватных фірмах.

Абраньне Рональда Рэйгана прэзыдэнтам у 1981 годзе паўстрымала накат левага лібэралізму ў палітычнай сфэры, і тады ён змушаны быў дзейнічаць з флянгаў – згуляць на расавым пытаньні. Пачалася спроба дэмаралізацыі белай большасьці, а таксама адкрытая дыскрэдытацыя прынятай дасюль амэрыканскай гісторыі. Айцы-заснавальнікі краіны, што далі Канстытуцыю і Дэклярацыю незадежнасьці, былі аб'яўленыя "здохлымі белымі дзядзькамі". Пераглядаліся й мяняліся літаратурныя каноны. Дасюлешнія сацыяльныя й гістарычныя тэоры аб'яўляліся ганебнымі, расісцкімі. Лекам ад гэтых прыдуманых левакамі бедаў былі праклямаваныя: мультыкультуралізм – роўнасьць і непадсуднасьць усіх культураў, акрамя адной – заходняй; паліткарэктнасьць – забарона на крытыку нябелых дзеячоў і расавых групаў; зацьвярджальная акцыя – свайго кшталту дыскрымінацыя супраць белага насельніцтва на карысьць "мяншыняў". У ашаламляльным посьпеху гэтай левалібэральнай трыяды вырашальную ролю адыгралі менавіта агульнапрынятыя масавыя сродкі лучна з акадэмічнымі інстытуцыямі, адказнымі за фармаваньне элітаў грамадзтва. І нешта яшчэ паспрыяла гэтаму посьпеху – крывадушнасьць і выкшталцоная хлусьня. А яшчэ – сындром голага караля, калі страшна выгукнуць відавочную праўду, як усе побач зацята нахвальваюць каралёў цудоўны строй, што нябачны воку.

Разрэклямаваныя мэдыямі мультыкультуралізм і паліткарэктнасьць сталі часткаю школьнага працэсу, праграмаў у школах і каледжах. Кожны крытык іх аўтаматычна рабіўся расістам і цемрашалам, а іх прызнаньне стала часткаю умоваў прасоўваньня па працы й пабудовы кар'еры ў сыстэме адукацыі, ва ўнівэрсытэтах, у шоў-бізнэсе і ў масавых сродках. Унівэрсытэты сталі ня толькі кузьняю байцоў мультыкультуралізму, але і заканадаўцамі ідэалягічнай моды (якая, дарэчы, перастала мяняцца). Кожны студэнт, што не хацеў выглядаць чорнай авечкай або белай воронай, і што хацеў мець нармальныя ўмовы для заняткаў – мусіў, прынамсі, не паказваць сваю нязгоду зь "лініяй партыі" левалібэралаў на кампусе. І гэта, дарэчы, стала парадаксальным чынам нагадваць стан савецкага студэнцтва даперабудовачных часоў, што хавала нязгоду зь "лініяй"іншай партыі – КПСС.

Адміністрацыя Клінтана зрабіла крокі па абмежаваньні свабоды слова. Пад маркаю абароны «правоў меншыняў» негатыўныя і абразьлівыя выказваньні сталі падпадаць пад дзеяньне крымінальных законаў пра "выказваньне нянавісьці". Здавалася б, слушныя абмежаваньні скрайніх паглядаў і дзеяньняў – гэтыя законы праз адвольнае трактаваньне нясуць у сабе патэнцыял далейшага выкарыстаньня ў якасьці дубіны па зьнішчэньні ідэалягічных апанэнтаў. У папулярызацыі гэтага закону, а таксама іншых праявах левaрадыкальнага вынаходніцтва, акрамя звычных масавых сродкаў, пачалі браць удзел новыя ідэёлягі – сеціўныя блёгеры, што з пачатку 2000-х гадоў сталі складаць усё больш заўважную канкурэнцыю друкаваным сродкам і тэле-радыё.

З разьвіцьцём блёгерства й сеціўнага журналізму пашырылася і левaрадыкальная прапаганда ў сеціве. Блёгі "Гафінтан Пост", "Дэйлі Біст", сеціўныя часапісы "Салон", "Слэйт" ды сотні іншых панесьлі левaрадыкальныя ідэі далей і глыбей у грамадзтва. Аспрэчваць і ставіць пад пытаньне мультыкультуралізм, паліткарэктнасьць, зацьвярджальную акцыю стала, асабліва ў маладзёвым асяродку, тым жа, што насіць нямодную вопратку або слухаць нямодную музыку – кшталтам самагубства. Прэсінг раўналеткаў, поруч з прэсінгам выкладчыкаў-лібэралаў, канчаткова замацаваў раўнадумства й уніфікацыю ў грамадзкіх навуках і досьледах, што мела непасрэдны ўплыў на стан грамадзкай думкі ў краіне. А стан гэты праявіўся ў выбарах на найвышэйшую і найадказную пасаду ў Амэрыцы малавядомага і нічым асаблівым сябе не паказаўшага маладога сэнатара, што меў, як пасьля аказалася, левых радыкалаў сярод настаўнікаў і сяброў, ды й сам не цураўся ў былыя часы левaрадыкальных выказваньняў, быў "грамадзкім арганізатарам", то бок аплочаным грамадзкімі грашыма лайдаком-агітатарам. Галоўным, і бадай адзіным, козырам гэнага былога прафэсійнага лайдака стаў колер ягонай скуры, за які ён у дадатак, амаль адразу пасьля абраньня, атрымаў Прэмію Нобэля – ад швэдзкіх левaрадыкалаў. Ды і падчас выбараў агульнапрызнаныя мэдыі адкрыта сталі на падтрымку свайго кандыдата, бессаромна ўзносячы алілуя неіснуючым, ці прынамсі недаказальным, вартасьцям былога вучня мэдрэсэ ў Інданэзіі й парафіяніна чорнага пастара-расіста.

Потым былі чатыры гады нявыкананых абяцаньняў, няспынная алілуя мэдыяў голаму каралю – і вось гэты голы кароль пераабраны на другі тэрмін, дзякуючы ўсё тым жа мэйнстрымным мэдыям, а таксама левым блёгерам.

Добрай раніцы, Амэрыка! Цябе ўжо цяжка пазнаць... дзякуючы тваім газэтам, тэлебачаньню, фільмам і сеціўным постынгам. Дзякуючы тваім палітыкам, артыстам, тэлевядучым, прафэсарам.

Барацьба з новай усеахопліваючай навалай вельмі лёгка і натуральна выліваецца ў гістэрыку. Каб запабегчы гэтага, патрэбныя вынаходлівасьць, гумар, вера ў свае вартасьці і – новыя мэтады барацьбы. А барацьба гэта будзе доўгай і складанай, хоць і – будзем спадзявацца – пасьпяховай. Усе сілы супраціву гэтай навале мусяць аб'яднацца, мусяць знайсьці свой голас, свой шлях да здаровага сэнсу, да сэрцаў людзей. І актыўнае скарыстаньне дэмакратызаваных праз блёгі й сацыяльныя сеткі мэдыяў можа стацца пераломным момантам у гэтым змаганьні. Амэрыканскія вартасьці мусяць вярнуцца ў цэнтар грамадзкай сьвядомасьці Амэрыкі.

***Віталь ЗАЙКА***

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Неміласэрдная арытмэтыка існаваньня

Якая краіна ў сьвеце магла дадумацца да таго, каб зрабіць алькаголь даступным з 21 гадоў? Вядома ж, тая самая, якая на трынаццаць гадоў, з 1920 да 1933, увяла „прагібіцыю”, то бок забарону на выраб, продаж і транспартаваньне вогненай вады. „Буз” забаранілі, але бузаваць, вядома, не перасталі. Да таго адбылася масавая ўспышка мафійнай актыўнасьці, карупцыі і ўсеагульнай пагарды да, што тут хаваць, ідыёцкага права. Больш за дзесяцігодзьдзе спатрэбілася на тое, каб дапетрыць, што справа гэтая абсалютна безнадзейная, і папраўку ўрэшце скасавалі. Аднак элемэнты абмежаваньня, ці забароны ў некаторых кропках Амэрыкі засталіся па сёньняшні дзень. Калі табе ўсё ж пашанцавала быць там, дзе алькаголь не знаходзіцца ў статусе нелегала, то калі ласка прадстаў „АйДзі”. Менш за 21? Гуляй-ідзі!

Для параўнаньня, каб атрымаць фармэрскія правы і ганяць з бацькоўскага ранча ў школу на татавым „доджы”, табе спатрэбіцца дачакацца 14 народзінаў. У 16 і 17 у большасьці штатаў можаш цалкам легальна займацца распуснымі ўцехамі. Калі табе стукне 18, то ўэлкам у краму па першую легальную зброю. І калі пасьля ўсіх гэтых уцехаў табе яшчэ захочацца прагаласаваць на выбарах, то міласьці просім. Ну і што з таго, што ты без паняцьця пра палітыку і жыцьцё ў цэлым? У дэмакратыі гэта толькі вітаецца. Але вось каб перакуліць свае першыя легальныя тры з паловай унцыі (запаветныя 100 грамаў), табе яшчэ, братка, жыць і жыць...

І так, падвядзем вынікі: 7 гадоў за рулём, ад 5 да 3 гадоў супольных практыкаваньняў са „school sweetheart”, калі пашанцуе, то на тваім рахунку ўжо адзін выбраны прэзыдэнт ды гарантаваныя 3 гады з уласнай стрэльбай і ўсё гэта бязь веданьня аніводнае (прынамсі тэарэтычна) кропелькі горкага боку жыцьця.

***Віталь ВОРАНАЎ***

*Здымак з https//:rowellsapushistory.wikispaces.com*




### Уплаты ў Згуртаваньне Ñêëàäê³ é àõâÿðâàíüí³:

- **А. Асмалоўская** ...............50
- **Ю. Вішнеўская** ................50
- **В. Едзіновіч** ..................50
- **І. Клімчэня** ....................50
- **В. Кораб** ........................50
- **К. Масяйчук** .................50
- **В. Міхайлава** ..................50
- **М. Пульманоўскі** .............50

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў аддзел шліце на адрас:**

*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*
**Чэкі выпісвайце на імя**
*Valentina Balashchenko.*

*Паважаны **І. Цублянок**, калі ласка, паведаміце рэдакцыі ваш дакладны паштовы адрас.*

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”** адбудзецца **ў суботу 9-га сакавіка 2013 году.**

Месца правядзеньня сходу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да станцыі **Union Square**.*

*Будынак знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад Union Square па 15-й вуліцы на скрыжаваньні з Irving Place.*

***Заля на другім паверсе.***

Пачатак: **а 6:00-й** вечара.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў ды іншых імпрэзаў, ладжаных арганізацыяй, можна даведацца, наведаўшы ў інтэрнэце ўэбстаронку **www.pahonia.org***

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

- **А. Асмалоўская** ..............30
- **Т. Асташка** ....................30
- **А. Гусак** ........................30
- **Н. і С. Дудар** ..................30
- **В. Едзіновіч** ..................30
- **І. Клімчэня** ..................30
- **А. Лукашэвіч** .................30
- **К. Масяйчук** ..................30
- **Л. і П. Рыжыя** .................30
- **І. і А. Чумаковы** ...............30
- **В. Якімовіч** ....................30

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь могуць усе зацікаўленыя даслаўшы аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***VIESTKI***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі з адзнакаю **“Весткі”** выпісвайце на імя **Valentina Balashchenko**.*
*Падпіску таксама можна аформіць, наведаўшы сайт **www.e-krama.com***